БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

9 жніўня 1994 г.
Аўторак
№ 86(13803)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года


**У НУМАРЫ:**



Малюе Віктар ДУБОВІК



# ШАНУЙЦЕ ГНЁЗДЫ СВАЕ...



## Кур'ер "ЧЗ"

### Персаніфікацыя ўлады

***У Маскве беларускі прэзідэнт заявіў аб намеры выступіць на гэтым тыдні ў прамым эфіры БТ, азнаёміць суграмадзян з асноўнымі напрамкамі знешняй і ўнутранай палітыкі, расказаць аб мерах, якія будуць прыняты ў бліжэйшы час для стабілізацыі сітуацыі і выхаду з крызісу, інакш кажучы, параіцца з народам.***

Аляксандр Лукашэнка праяўляе паслядоўнасць, падкрэсліваючы пасля абрання на высокую пасаду (падобныя заявы гучалі і да выбараў), што кардынальныя рашэнні будуць прымацца, што называецца, "галосна", толькі пры ўсенароднай згодзе і атрыманні "мандата даверу" на правядзенне стабілізацыйнага курсу. Між тым прэзідэнцкі мандат, выдадзены Лукашэнку больш чым 80-цю працэнтамі выбаршчыкаў, браўшых удзел у галасаванні 10 ліпеня, упаўне дазваляе новаму лідэру фарміраваць уладныя структуры згодна з уласнымі поглядамі і прыхільнасцямі. Такое фарміраванне распачалося амаль адразу ж пасля другога тура народнага волевыяўлення і працягваецца цяпер. Такім чынам, персаніфікацыя ўрадавага кабінета і прэзідэнцкай адміністрацыі сёння па-ранейшаму — адна з галоўных тэм. Пакуль вырашаецца лёс міністэрскіх партфеляў і персаналій у прэзідэнцкіх структурах, упраўленне па барацьбе з карупцыяй, якое ўжо функцыяніруе ў адміністрацыі Аляксандра Лукашэнкі, удзяляе павышаную ўвагу праверцы прэтэндэнтаў на вышэйшыя дзяржаўныя пасады. Нават калі прафесіяналы высокага класа будуць заўважаны ў сувязі ці кантактах "з мафіёзнымі структурамі", яны не атрымаюць прызначэнняў, бо асноўны крытэрый пад час адбору кандыдатур на ўваходжанне ў калідоры ўлады — абсалютная чысціня рук, няўдзел у ніякіх справах, якія можна звязваць з карумпіраванасцю. "Кабінетныя" страсці, зразумела, хвалююць і прэм'ера Міхаіла Чыгіра. У структуры ўрада плануюцца шматлікія змены, апарат кабінета адчувальна паменшыцца ў памерах. Аднак фарміраванне міністэрскага корпуса адбываецца і, трэба спадзявацца, завершыцца толькі на падставе кансультацый з прэзідэнтам. Паралельна праходзіць і працэс персаніфікацыі прэзідэнцкай адміністрацыі. Яе колькасць будзе складаць 105 чалавек (у Расіі, напрыклад, — тры з паловай тысячы). Гэта не надта многа, але пры належнай арганізацыі кампактны "штаб кіравання" можа ажыццяўляць свае функцыі эфектыўна і высокапрафесійна. Кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Леанід Сініцын мяркуе, што сярод прыярытэтных напрамкаў дзейнасці гэтай структуры стануць дзяржаўна-прававы, кантрольны, важная роля надаецца ўпраўленню па рабоце з тэрыторыямі, таксама ўпраўленню грамадска-палітычнай і сацыяльнай інфармацыі, будучаму аналітычнаму цэнтру — своеасаблівай інтэлектуальнай камандзе, якая зоймецца экспертызай праектаў указаў і аналізам канкрэтных сітуацый, выпрацоўкай агульнай стратэгіі і тактыкі рэформ. Асобае значэнне ў адмінстрацыі адводзіцца прэзідэнцкаму савету і савету па нацыянальнай бяспецы. Сёння няма недахопу ў прагнозах наконт персанальнага складу новай улады, некаторыя прозвішчы (а іх з кожным днём становіцца ўсё больш) са "спіса правіцеляў" названы. Акрамя вядомых па публікацыях у друку нядаўна прызначаных віцэ-прэм'ераў і міністраў, паволі "запаўняюцца нішы" ў прэзідэнцкіх структурах кіравання. Міхаіл Сазонаў узначальвае камітэт па барацьбе з карупцыяй (адначасова — намеснік кіраўніка адміністрацыі), Іосіф Віленга курыруе юрыдычнае ўпраўленне, а ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі — Аляксандр Фядута. Дзмітрый Булахаў і Віктар Шэйман — у рангу дзяржсакратароў прэзідэнцкага савета і савета нацыянальнай бяспекі.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### Новыя акцэнты знешняй палітыкі

***Напрыканцы мінулага тыдня Уладзімір Сянько, новы міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь сустрэўся з журналістамі.***

У сваёй прамове спадар Сянько паведаміў прадстаўнікам прэсы, што не планує радыкальных змен у знешняй палітыцы рэспублікі. Для гэтага, ён лічыць, няма падстаў. Але ж паколькі з'явілася прэзідэнцкая ўлада, то, безумоўна, з'явяцца і новыя акцэнты. Міністэрства замежных спраў — інстытут рэалізацыі гэтай палітыкі. За апошнія чатыры гады Беларусь прайшла некалькі этапаў. Умацоўваўся знешні аўтарытэт краіны, бесперапынна падпісваліся пагадненні аб устанаўленні дыпламатычных адносін. Гэта былі знаёмствы, наладжванні кантактаў. Зараз пачнецца іншы, нялёгкі перыяд, абцяжараны эканамічным становішчам. Але аксіёма застаецца старой. Адносіны з Расіяй — наш прыярытэт. Велізарная суседка, якая нядаўна пачала рэфармаванні, — перагнала нас. Паводле слоў міністра, расійска-беларускія адносіны будуць выпрабаваннем для абодвух бакоў. Нашы, беларускія, эканамічныя стандарты не супадаюць з заходнімі, таму мы павінны хутчэй знаходзіць агульнае з усімі краінамі СНД. Захоўваюць сяброўскія адносіны таксама і з Польшчай, Літвой, Латвіяй, Эстоніяй, бо паміж намі няма ні рэлігійных, ні этнічных, ні палітычных канфліктаў. Міністэрства замежных спраў пад новым кіраўніцтвам планує рабіць усё магчымае, каб не зніжаць дынаміку адносін і з заходнімі краінамі.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### Хочаш на мора – спявай!

***На віцебскім заводзе "Мегом" надзвычайнай папулярнасцю карыстаюцца... песні. Удзельнікі мясцовага калектыву мастацкай самадзейнасці тут заахвочаны паездкай у Адэсу.***

На пяць дзён забудуцца яны на беразе Чорнага мора пра гарадскую мітусню. Усе расходы, акрамя транспартных, адміністрацыя і прафсаюзны камітэт завода бяруць на сябе. Так што, хочаш убачыць мора — не трымай рот на замку.

### Шуміліна чуваць далёка

***У гарадскім пасёлку Шуміліна каля дзесяці гадоў працуе радыёклуб, куды можа запісацца кожны, хто жадае паспрабаваць свае сілы ў радыётэхніцы. Прымаюцца школьнікі з дванаццацігадовага ўзросту.***

Некаторыя радыёаматары пасля заканчэння клуба звязваюць свой далейшы шлях з гэтай спецыяльнасцю і нават становяцца славутасцямі. Але галоўнае, — падлетак тут заняты справаю і прыносіць карысць замест таго, каб бадзяцца па вуліцы.

**Уладзімір МІХНО.**

### Выданні мясцовых аўтараў

***У апошні час у Оршы з'явіліся брашуры, невялікія кніжкі, буклеты мясцовых аўтараў.***

Так, у прыватнасці, гарадское таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры выдала масавым тыражом кнігу В.Багамазава "Орша ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг." Аўтар гэтага дакументальна-гістарычнага нарыса — дырэктар Аршанскага музея К.С.Заслонава.

А настаўнік-пенсіянер з гарадскога пасёлка Арэхаўск Б.Шалуха напісаў брашуру "Пад музыку турбін". Гэта падрабязны цікавы расказ пра першынца беларускай энергетыкі — Беларускую раённую электрастанцыю.

Немалую цікавасць чытачоў выклікаў буклет аршанскага краязнаўца А.Шынковіча "Падарожжа па Дняпры".

**Ісак КОГАН.**

### Курсы валют на 8 жніўня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 26500 | 273000 | 16830 | 17350 |
| "Прыор" | 26700 | 27200 | 16900 | 17300 |
| "Дукат" | 26300 | 27200 | 16900 | 17300 |

ЯК ЖЫВЕШ , СМБ?

## Пара спякотнай працы і адпачынку

□ **Ліля ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"**

***Лета — яно для ўсіх. Але, няхай на мяне не пакрыўдзяцца прадстаўнікі старэйшых пакаленняў, у моладзі з летам асаблівыя стасункі.***

***Школьнікі на тры месяцы развітваюцца з урокамі, дзённікамі, хатнімі заданнямі і класамі. Студэнты — дарослыя людзі, часткова захаваўшыя прывілеі дзяцей, — кажуць "бывайце" іспытам, залікам і аўдыторыям. Цалкам самастойная працуючая моладзь з імпэтам рыхтуецца да доўгачаканага месяца адпачынку, на які заўсёды ўскладваеш больш надзей, чым на астатнія адзінаццаць месяцаў. Карацей, лета ў жыцці моладзі — адказная пара. Адказная яна і для самай буйной маладзёжнай арганізацыі нашай рэспублікі — Саюза моладзі Беларусі. Зараз выкарыстаем тэлефонную сувязь і пацікавімся ў абласных камітэтах, якімі справамі яны занятыя ў гэты спякотны час.***

— Займаемся аздараўленнем дзяцей у Малдавіі,— дзелавітым, энергічным голасам адказала першы сакратар Магілёўскага абкама СМБ Наталля Маргунова.— Увогуле каля 170 чалавек будзе адпачываць у Малдавіі. 45 маладых людзей папрацуюць і адпачнуць у сельгасатрадзе. 80 накіравалі ў лагер працы і адпачынку ў Адэсу. Працуе абласны лагер старшакласнікаў, дзе вучыцца і адпачывае актыў школ і прафтэхвучылішчаў.

Наталля Маргунова падзялілася інфармацыяй, якая, трэба думаць, зацікавіць тых маладых жыхароў Магілёўскай вобласці, якія пакуль не ў "курсе": у вобласці працуе вочна-завочная школа "Лідэр", дзе лепшыя школьнікі па адмысловых праграмах займаюцца з сацыёлагамі, псіхолагамі, увогуле шліфуюць з дапамогай спецыялістаў свае асабістыя якасці. Да ўвагі будучых абітурыентаў, якія маюць схільнасці да камерцыйнага апірышча: тыя, хто ў гэтым годзе атрымаў пасведчанне яшчэ адной вочна-завочнай школы "Менеджэр", маглі без іспытаў паступіць у Магілёўскую камерцыйную акадэмію.

Ужо сёння Магілёўскі абкам рыхтуецца да правядзення Дня першакурсніка. Прадугледжваецца дыскатэка — самая спрыяльная глеба для знаёмства наваспечаных студэнтаў паміж сабой.

Лідэр Гродзенскай абласной арганізацыі СМБ Аляксандр Дз'якевіч падаўся стомленым (ён некалькі гадоў не быў у адпачынку), але не страціў бадзёрасці:

— Накіроўваем старшакласнікаў у лагер "Фламінга-94". Чаму "Фламінга"? Таму што сімвал дабрыні. 12 жніўня заканчваецца III змена. Да абеду займаюцца на спецкурсах — бальныя танцы, усходнія адзінаборствы, "Пазнай сябе", нават "Магія белая і чорная". Каб трапіць у гэты лагер, жадаючыя праходзілі адмысловыя тэсціраванні. Сёлета ў лагеры новы калектыў, праводзіўся конкурс праз нашу газету "Камерцыйны кур'ер".

На пытанне, як летні перыяд уплывае на колькасць сяброў СМБ, Аляксандр заўважыў:

— Канешне, за лета гэта колькасць памяншаецца, прынамсі, не павялічваецца. Узрастаць пачынае ўвосень. Найбольш буйная па колькасці арганізацыя — на вытворчым аб'яднанні "Хваля". Што тычыцца фінансаў, някепска справы ідуць у гаспадарчым плане ў Лідскім гаркаме, яны зарабляюць грошы, аказваючы паслугі насельніцтву, а менавіта займаючыся камерцыйным турызмам.

Ігар Невяроўскі, кіраўнік сталічнай абласной арганізацыі, пра якога не скажаш, што яму бракуе аптымізму, вывеў нашу непрацяглую тэлефонную размову на праблемны ўзровень:

— Калісьці летам праводзіліся розныя конкурсы, напрыклад, жывёлаводаў, паляводаў. Цяпер гэтага ўжо няма. Сёлета праблематычным нават выглядае правядзенне абласнога злёту аматараў турызму, які праводзіўся штогод у ліпені. Спадзяёмся, што ён усё ж адбудзецца — у жніўні. На сённяшні дзень злёт можа прайсці толькі ў 2—3 раёнах. Прычыны такога становішча зразумелыя. Адзін раённы злёт каштуе 5—8 млн, абласны — 50—80 млн. рублёў. Калі раней мы маглі планаваць сродкі на год, дык цяпер усё з'ядае інфляцыя. Сёння мы ў такой жа залежнасці, як і ўся дзяржава. На жаль, недасканалая падатковая сістэма не садзейнічае прыцягненню спонсараў. І тым не менш некаторыя раёны самастойна адшукваюць сродкі, праводзяць конкурсы, як, напрыклад, Капыльскі раён, які арганізаваў "Спартландыю". Увогуле мы вельмі спадзяёмся на нашага першага прэзідэнта, на тое, што ён будзе садзейнічаць узмацненню маладзёжнай палітыкі ў дзяржаве.

Што ж, мы таксама спадзяёмся, што 39-гадовы беларускі прэзідэнт, а таксама маладыя паплечнікі з яго каманды здолеюць унесці патрэбныя "карэкціроўкі" ў такую дзяржаўную справу, як маладзёжная палітыка.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Уорлднэт" — "Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "TV-5"

### Парадкі і падаткі

***Кубінскі парламент на сваёй чарговай сесіі адобрыў увядзенне новай падаткавай сістэмы.***

З наступнага года кубінцы пачнуць плаціць падаткі з асабістых даходаў і заработнай платы. Уводзяцца таксама падаткі на нерухомасць, у тым ліку на прыватныя дамы і кватэры.

### Мундзір "вялікага дыктатара" і шкура шымпанзэ

***Касцюм з рэгаліямі, у якім Чарлі Чаплін здымаўся ў ролі "вялікага дыктатара", выстаўлены на аўкцыёне Сотбі ў Лондане.***

Пачатковая цана — 38 тысяч даляраў. Аматарам кінасувеніраў прапануецца таксама "касцюм шымпанзэ" з фільма "Легенда пра Тарзана". Ён каштуе чатыры з паловай тысячы даляраў.

### Нефармальная сустрэча

***Гарадок Кабарыд на славенска-італьянскай мяжы ў Альпах стаў месцам нечаканай сустрэчы. Знаходзячыся на адпачынку ў Славеніі, прэзідэнт Чэхіі В.Гавел і прэзідэнт Венгрыі А.Генц вырашылі сустрэцца з прэзідэнтам Славеніі М.Кучанам.***

Нагодай для нефармальнай сустрэчы стала 80-годдзе пачатку першай сусветнай вайны. Тады ўсе тры краіны знаходзіліся ў складзе аўстра-венгерскай манархіі. Ніякіх афіцыйных заяў прэзідэнты не прынялі.

### Выбух на цынкавай шахце

***Не менш чым 66 чалавек сталі ахвярамі магутнага выбуху, які прагрымеў на тэрыторыі цынкавай шахты Кэньпэн у паўднёвым Гуансі-Чжуаньскім аўтаномным раёне Кітая.***

Паводле паведамленняў мясцовых агенцтваў, яшчэ каля 100 рабочых атрымалі цяжкія раненні.

### Парламенцкі...бастыён

***Палата дэпутатаў Нацыянальнай асамблеі Гаіці спецыяльнай рэзалюцыяй абвясціла парламент "галоўным бастыёнам супраціўлення замежнай інтэрвенцыі".***

Як вядома, уварванне на Гаіці стала верагодным пасля вядомай рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН.

### Крызіс улады ў Беніне

***Кіраваць Бенінам з дапамогай дэкрэтаў і ігнараваць дзяржаўны бюджэт, які 28 ліпеня адобрыў Нацыянальны сход, вырашыў лідэр гэтай заходнеафрыканскай дзяржавы Нісефор Согла.***

Тым самым ён давёў да максімальнай кропкі палітычны крызіс у рэспубліцы.

### Паўднёвая Карэя змагаецца з "левымі" акадэмікамі

***Следчыя праваахоўных органаў Паўднёвай Карэі ўзяліся за дэталёвае вывучэнне універсітэцкіх падручнікаў па гуманітарных дысцыплінах.***

Іх мэта — выявіць і выкараніць у акадэмічным асяроддзі "ідэалагічныя плыні левай арыентацыі".

### 180 рандаў – кожнаму

***У Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы завяршылася адна з самых доўгатэрміновых забастовак служачых сеткі супермаркетаў гандлёвай фірмы "Пік энд пэй".***

Прадстаўнікі прафсаюзаў і ўладальнікі кампаніі прыйшлі да пагаднення аб павышэнні заработнай платы ўсім яе супрацоўнікам на 180 рандаў, або на 12,3 працэнта ад сярэдняй стаўкі.


*(Працяг на 3-й стар.).*


ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"


Дзяжурныя па выпуску перакладчык Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.

**Бізнес-клас**

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА

Тэл. 68-28-32

## Даляр не дарує такіх метадаў "барацьбы"

Вар'яцтвам – не інакш можна назваць сітуацыю, узнікшую ў апошні час на наяўным рынку валют. Індыкатар узроўню жыцця насельніцтва і адзіна правільная ў сённяшніх умовах "лінейка" вартасці ўсяго, што нас акружае – курс "цвёрдых" валют, – раптам "забарахліў". "Ртутны слупок" гэтага паказчыка, які доўгі час фіксаваў кошт даляра на ўзроўні 28 тысяч наяўных беларускіх рублёў, знізіўся да адзнакі 22-23 тысячы. Прычым, калі абменныя пункты яшчэ неяк спрабавалі ўтрымліваць курс, то "чорны" рынак адрэагаваў тут жа, знізіўшы цану "цвёрдых" валют на 5–6 тысяч. І гэта, бадай, нядзіўна. Таму што любыя рэзкія ўзлёты і зніжэнні курсу даюць глебу шматлікім спекуляцыям на валютным рынку.

Дык што ж адбылося, у чым прычына ўзнікнення такой нечаканай сітуацыі? Адказ мог быць простым, калі б у рэспубліцы перамаглі інфляцыю, спынілі спад вытворчасці, замарозілі безрэсурсныя крэдытныя ўліванні. Аднак гэтага не адбылося. Хутчэй наадварот: цэны падскочылі, павялічылася мінімальная заработная плата, а многія прадпрыемствы як прастойвалі, так і стаяць да гэтага часу. Нават, паводле прагнозаў чыноўнікаў Нацбанка, наяўны даляр, курс якога заўсёды быў крыху ніжэйшы за безнаяўны таму, што ў рэспубліцы на руках у насельніцтва накапілася вялікая колькасць валютных зберажэнняў, ніяк не павінен быў зніжацца, магло назірацца толькі збліжэнне безнаяўнага і наяўнага курсаў. У той жа час безнаяўны даляр захаваў свае пазіцыі і сёння застаецца на ўзроўні амаль 28 тысяч беларускіх рублёў за даляр.

І ўсё ж прычына, што выклікала крах даляра, ёсць. Толькі яна не на паверхні і не ў аб'ектыўных умовах жыцця, а схавалася ў тэлетайпных стужках Нацыянальнага банка рэспублікі, які 20 ліпеня накіраваў тэлеграму ў адрас шэрага беларускіх банкаў. У тым ліку гэта пасланне атрымалі ў галоўных і спецыялізаваным упраўленнях самога Нацбанка, "Белагрампрамбанк", "Белпрамбудбанк", "Белашчадбанк", "Беларусбанк", "Прыорбанк", "Інвестбанк", "Белбізнесбанк", аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам.

У тэлеграме адзначаецца, што ўзнік дэфіцыт грашовай наяўнасці ў выніку спантаннага прыняцця рашэння аб павелічэнні мінімальнай заработнай платы і іншых сацыяльных ільгот. У мэтах прадухілення сацыяльнай напружанасці і для стабілізацыі становішча ў наяўна-грашовым абароце ўстанаўліваецца жорсткі кантроль за наяўнымі грашовымі сродкамі. Як адна з мер – абмежаванне наяўных сродкаў у банках, што і было "першай скрыпкай" у зніжэнні курсу цвёрдых валют. Наконт гэтага ў тэлеграме гаворыцца: "Куплю наяўнай свабоднаканверсуемай валюты праводзіць у межах выручкі ад рэалізацыі СКВ. Усё, што звыш гэтай сумы, па ўзгадненню з прадаўцом, праводзіць у безнаяўным парадку, шляхам залічэння на ўклад без права атрымання наяўных грошай больш за размер мінімальнай зарплаты ў месяц". Забараняецца выдача наяўных для правядзення ламбардных аперацый, на куплю гаруча-змазачных матэрыялаў, камітэтам на тавары, якія набываюцца на камісійных асновах. Пад строгім мэтавым кантролем павінна праводзіцца выдача грошай на закупку сельгаспрадукцыі, забараняецца выдача наяўных з укладных рахункаў, якія паступаюць безнаяўным шляхам ад вытворчай прадпрымальніцкай дзейнасці.

Абмежаванне гэтым распараджэннем паступлення ў абменныя пункты наяўных грошай – злы жарт Нацбанка з курсам валют. Першы ўдар ад такіх мер на сябе прынялі бізнес-колы, прыватныя прадпрымальнікі і проста людзі, якія атрымліваюць зарплату ў СКВ. У той жа час у другой частцы тэлеграмы Нацбанк імкнецца абараніць бюджэтнікаў і малазабяспечаныя слаі насельніцтва. Ён настойвае на неабходнасці "забяспечыць у першачарговым парадку аплату працы, пенсій, дапамог, стыпендый. Павысіць кантроль за своечасовасцю і паўнатой здачы выручкі абслуговымі суб'ектамі". У першую чаргу, дывідэнды па акцыях, вяртанне станоўчых паявых узносаў, паявых узносаў, пазыкі банкаў у лік сродкаў прадпрыемстваў і іншыя выплаты трэба праводзіць шляхам залічэння на ўклады ў безнаяўным парадку з прапановай чэкавай формы разлікаў ці афармленнем на тэрміновы дэпазіт.

Такім чынам, банкі запрацавалі ў новых умовах, а гэта прывяло да скарачэння абароту наяўных грошай. Як вынік – зніжэнне курсу СКВ. Аднак не трэба цешыць сябе надзеямі, таму што даляр не дарує такіх, няхай і ўскосных, метадаў "барацьбы". Мы ўжо не раз пераконваліся, што любы штучны націск на курс цвёрдых валют прыводзіць затым да рэзкага скачка ўверх іх кошту ў беларускіх рублях. Дарэчы, паводле прагнозаў экспертаў, ужо ў верасні чакаецца, што наяўны даляр будзе каштаваць прыблізна 35–40 тысяч беларускіх рублёў. Так што выкарыстайце параду, – атрыманую мной ад банкіраў, – пераходзьце жыць на хлеб і ваду, але не спяшайцеся сёння мяняць СКВ на рублі. Валюту цяпер лепш купляць...

СКРЫЖАВАННЕ

# У расколатым люстэрку — армія

(Заканчэнне. Пачатак у №№83–85).

***Аповед чацвёрты:***

## Ягор хаваўся за мяжой, а Лёша – па суседзях

□ Валянцін БАРЫСЕВІЧ, "ЧЗ"

*Ранак верасьнёвы*
*Пахне свежай мятай.*
*Хлопцы, я вясёлы:*
*Заўтра мне ў салдаты!*
*Загрымяць, зазвоняць*
*Поезда калёсы.*
*Да сустрэчы, гоні,*
*Нёманскія плёсы.*
*Да сустрэчы, хаты*
*Беларускай вёскі,*
*Хлопцы і дзяўчаты,*
*Маці і бярозкі !*
*Будуць палігоны.*
*Мары, посвіст ветру.*
*Зачасцяць вагоны*
*Везці нам канверты.*
*Ранак верасьнёвы,*
*Па–над нашай хатай.*
*Хлопцы, я вясёлы:*
*Я іду ў салдаты!*

Армія — не ўзброены народ, а ўзброены народ — не армія. Аднак на хвалі хаосу, што пануе ў палітыцы і жыцці, некаторыя спрабуюць даказаць адваротнае, і тым самым усяляк засцерагчы свайго сына ад службы ў войску. Менавіта ў гэты размыты, нібыта зацяжнымі халоднымі дажджамі перыяд у жыцці краіны, калі няма выразных межаў між дабром і злом, калі апляванымі ва ўяўленні моладзі паўсталі з падачы некаторых дзеячаў святыні, на якіх выхоўвалася пачуццё абавязку, — усё ярчэй бачна маральнае перараджэнне, якое, у сваю чаргу, праклала гнілую кладку да небяспечнай з'явы ў асяродку прызыўнікоў — "адмаўленцы".

Канешне, не ўсё гладка было ў нашай гісторыі. Ніхто і не імкнецца прыхарошваць пекла Афганістана, дзе побач з гераізмам былі і люта знявечаныя трупы салдат і афіцэраў, што трапілі ў палон душманаў, і дэзерціры-перабежчыкі, якіх вымусілі пакінуць падраздзяленні здзекі аднапалчан-"дзядоў". Былі і Карабах, Асецiя і Грузія, Прыднястроўе, Абхазія, Таджыкістан... Адным словам, у люстэрку арміі змяіцца страшная маральная расколіна. Яна пакінула глыбокі след. Не на голым жа месцы ў кволых душах большасці прызыўнікоў развілося непрыманне "казармы". Бо цынізм і сумленне — паняцці не сумяшчальныя. З пачатку стварэння свету так было. Аднак пытанне непрымання, "казармы" куды больш шырокае. І добра, калі гэты працэс — працэс самаізаляцыі абмяжуецца некалькімі дзесяткамі чалавек, якія адчуваюць комплекс уласнай непаўнацэннасці, а калі ахопіць увесь прызыў?

Дарэчы, тэндэнцыя ўхілення ад службы ярка сведчыць і пра наш лад жыцця, а калі дакладней — бязладдзе. Навучыўшыся спекуляваць, хітрыць, пазбягаць жыццёвых цяжкасцей, многія юнакі (асабліва з ліку камерсантаў ды лавачнікаў) забыліся, што яны, гэтыя цяжкасці, пасылаюцца Богам для таго, каб праз іх прайсці, ачысціцца душой ад усяго мітуслівага, другараднага, бо армія ў рэшце рэшт — школа выхавання мужнасці, абавязку, патрыятызму. Але хіба гэта лёгка растлумачыць чалавеку з дэфармаванай мараллю, для якога меркай святасці з'яўляецца даляр, што загартоўку ў горне арміі абавязаны прайсці кожны мужчына, калі ён не калека, не слабы здароўем.

У свой час, а менавіта дваццаць тры гады назад, калі я быў прызваны на службу ў рады Савецкай Арміі і калі літаральна на адным дыханні напісаў верш, які скарыстаў эпіграфам, ніхто нават у думках не меў намеру ўхіліцца ад службы. Наадварот, у вёсцы і горадзе з павагай ставіліся да тых, хто адслужыў, і з пэўным недаверам глядзелі ў бок хлопцаў, хто па нейкай прычыне атрымаў адтэрміноўку на год-два, і з пачуццём жалю — на юнакоў, камісаваных па стану здароўя. Нават у дзяўчат першае пытанне было: ці служыў?

Між іншым, некаторыя журналісты, калі гутарка заходзіць аб "адмаўленцах", імкнуцца ўсе сённяшнія балячкі, у тым ліку і ўзнікаючыя праблемы з прызывам, зваліць на спадчыну Савецкай Арміі. Але гэта ў корані супярэчыць сапраўднасці. Хвароба "адмаўлення" набыта менавіта ў апошнія гады, калі ў сродках масавай інфармацыі замест глыбокага аналізу стану спраў у той жа Беларускай арміі малявалі службу толькі негатыўнымі фарбамі. Маўляў, там і "дзедаўшчына", і наркаманія працвітае. Што ж, у сям'і не без вырадкаў. Але ў большасці падраздзяленняў — парадак. У тым жа батальёне сувязі, дзе намеснікам камандзіра па выхаваўчай рабоце Дзмітрый Крывякін, восемдзесят працэнтаў салдат на ананімнае апытанне, якое было праведзена з мэтай выяўлення парушэнняў, адказалі, што хочуць больш спаць. Адным словам, правілы ўнутранага распарадку не дазваляюць ажыццявіць на справе даўнюю прымаўку: салдат спіць, а служба ідзе. А што тычыцца іншых пытанняў, то радавыя Аляксандр Тураў, Сяргей Тамашоў, Сяргей Назін, старшыя сяржанты Ігар Паддубскі, Віталь Гарэлаў пад час гутаркі задаволена казалі: "Лепей і не трэба. І ежы хапае, і культмасавых мерапрыемстваў, і з пісьменнікамі, артыстамі сустракаліся больш як да службы".

Як бачна, не ўсюды так дрэнна, як сёй-той малюе. Аднак шэрагі тых, хто ўхіляецца ад службы, ігнаруе дзеючы закон "Аб усеагульным вайсковым абавязку і ваеннай службе" не змяншаюцца. У ваенных камісарыятах пухленькія папкі асабістых спраў прызыўнікоў, дзе акуратна падшываюцца карашкі позваў, копіі папер у раённыя аддзяленні ўнутраных спраў з просьбай адшукаць асоб, якія не з'явіліся для прызыву ў армію, адказы з іншых інстанцый на запыты, а саміх прызыўнікоў ні дома, ні па ранейшым месцы працы днём з агнём не адшукаць.

"Уяўляеце, да чаго ўжо даходзіць, — абурыўся ваенны камісар Партызанскага раённага ваеннага камісарыята г.Мінска Уладзімір Бойка, — раней "адмаўленцаў" можна было па пальцах адной рукі пералічыць, хаця служыць даводзілася і на Паўночным Каўказе, і на Далёкім Усходзе, а сёння ў сябе ля хаты "не жадаюць".

Усё быццам зразумела. Які час, якія законы, гэткія і плады. Словам, прадаўжаў Уладзімір Бойка, утварылася трэшчына ў самасвядомасці людзей, узнікла небяспечная мяжа ў адносінах да чалавека ў пагонах, вельмі прыхільная ў народзе, літаратуры, кіно — раней.

Што і казаць, у свой час сапраўды воінскія традыцыі былі цесна звязаны з народнымі. Зняславіць гонар палка, здрадзіць яго сцягу абазначала кінуць цень і на гонар сям'і. І гэта натуральна. Гэтаму вучылі з маленства аповеды бацькоў, школа, тэхнікумы, інстытуты, творы беларускіх пісьменнікаў.

А чаго можна чакаць, напрыклад, ад "абаронцаў" накшталт П.Вараксы, Д.Корсакава, якіх доўгі час не маглі вылавіць работнікі Партызанскага райваенкамата?

Здаецца, з прэстыжам армейскай службы ўсё зразумела. Ён на парадак знізіўся ў сілу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын. А як жа працуюць у такім разе законы? Адразу прыкмечу — слаба. Мяркуйце самі. Калі яшчэ ўчора прызыўнік, што не з'явіўся па позве ваенкамата, падвяргаўся штрафу ў памерах аж пяцідзесяці рублёў! Сёння ж, адпаведна з Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях, — у памеры мінімальнай зарплаты. Калі ж ён не з'явіцца і ў чарговы раз, то плаціць давядзецца дзве мінімальныя зарплаты. Сума, здавалася б, вялікая. Але, гледзячы для каго. Для хлопца ад станка і плуга — так. А для тых, хто варочае мільёнамі, хто ўжо сёння ездзіць на "Вольвах" і "Мерседэсах", — мізэр.

Трэба сказаць, невясёлы малюнак. А, між тым, па логіцы рэчаў, служба ў радах узброеных сіл павінна быць абавязковай для ўсіх. У жыцці ж усё інакш. Дастаткова пазнаёміцца з некаторымі артыкуламі прынятага Вярхоўным Саветам закона "Аб усеагульным вайсковым абавязку і ваеннай службе", які дзейнічае, каб на свае вочы пераканацца, колькі катэгорый грамадзян, згодна з ім, маюць права на адтэрміноўку ад прызыву, — тут і інжынеры, і вучоныя, і... а колькі вызваляецца наогул! І кола льготнікаў усё расшыраецца.

Канешне, можна зразумець, калі вызваляецца ад прызыву хлопец, які ажаніўся і мае дзіця. Сёння, сапраўды, адной маці выхаваць дзіця без матэрыяльнай падтрымкі цяжка. Немалаважны і маральны фактар, з-за якога часцяком распадаюцца сем'і. А вось што тычыцца іншых катэгорый — тых жа вучоных, інжынераў, то, лічу, кожны здаровы грамадзянін нашай суверэннай рэспублікі абавязаны служыць. Неабходна, на маю думку і думку афіцэраў, з якімі давялося гутарыць, перагледзець і законы ў дачыненні "адмаўленцаў". Інакш Беларуская армія ў хуткім часе сапраўды стане не рабоча-сялянскай, а ў тыле будзе "абжываць" пазіцыі цывільная — армія дэзерціраў. Ад "адмаўленца" да дэзерціра — адзін крок.

Палкоўнік Уладзімір Бойка ўзяў вязку "асабістых спраў прызыўнікоў". Там у звычайных раўнадушных выказваннях значыліся радкі з адказаў афіцыйных устаноў, органаў правапарадку, пісьмы бацькоў.

Ён наўздагад выцягнуў чарговую: "Калі я адна гадавала сына, дзяржава не бачыла, як мне цяжка даводзілася, — пісала ў ваенкамат на імя ваеннага камісара маці прызыўніка Аляксея Любчанкі. — Мне ні ў чым не дапамагалі. Сын бадзяўся па суседзях ці сядзеў у хаце замкнёны. А таму я не жадаю, каб ён служыў у цяперашняй арміі. Абараняць спекулянтаў? Дзякуй!"

Дарэчы, Аляксей Любчанка, як піша маці, бадзяўся не проста так. Гэтае бадзянне давяло да чаканых вынікаў. Нядаўна Першамайскі раённы суд г.Мінска пазбавіў яго на два гады волі з адтэрміноўкай выканання прысуду. Ці з'явіцца ён у чарговы раз па позве ў ваенкамат?

А вось яшчэ адна папка. У ёй — тлумачальная запіска ад участковага інспектара І.Гатаўца, які запісаў сведчанне маці аб ухіленні ад службы ў арміі яе сына Ягора Бурлова: "Ягор не мог з'явіцца па позве на асенні прызыў з-за таго, што быў у краінах Прыбалтыкі. У час вясенняга прызыву знаходзіўся на Украіне".

Вось так. Пад час прызыву хлопцаў можна сустрэць дзе толькі хочаце: у Расіі, на Украіне, у Польшчы, краінах Прыбалтыкі, але не ля дзвярэй ваенкамата. Іншых бацькі адпраўляюць у вёскі.

Палкоўнік закрыў папку і выдыхнуў цяжка: "Божа, што за прызыўнікі пайшлі? На кожнага — тамы папер..."

Так, складаны, шалёны час. Але ён вось-вось міне — і, мне здаецца, народ прыгадае, што арміі трэба аддаваць усё лепшае: сям'я — лепшага сына; конназаводчык — лепшага каня; фабрыкант — лепшы ўзор матэрыялу; заводчык — лепшую машыну; рабочы — лепшую працу. Як прыгадае і словы запаведзі: "Адчувай у часці сям'ю. У афіцэру — бацьку, у сябрах — братоў". Дарэчы, у батальёне сувязі, аб якім апавядалася, менавіта так і жывуць, служаць.



## Бурштынавае, пеністае, рэчыцкае...

*Піва, зваранае на заводзе ў Рэчыцы, аўтарытэтнае журы прызнала адным з лепшых сярод 71 узору з усяго былога Саюза. Карыстаецца попытам "Рэчыцкае" не толькі ў сябе дома. Прадпрымальныя "чаўночнікі" вязуць яго дробным оптам і ў Расію. На Сочынскім міжнародным кірмашы "Піва-94" яно ўзнагароджана яшчэ і дыпломам за выдатную якасць.*

Сяргей ХАЛАДЗІЛІН, БЕЛІНФАРМ.



МІНСКІ ДЗЁННІК

# У адпачынак за мяжу,

## альбо Парады для багаценькіх

□ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ".

*Летам сталіца пусцее. Нядзіўна — сезон адпачынкаў выганяе публіку з душнага горада і службовых кабінетаў у паўднёвы накірунак. Нехта сунецца да мора "дзікуном", прыхапіўшы кансервы і шмат сала, нехта купляе пуцёўку і карыстаецца паслугамі гатэльнага сервісу. Сёй-той дазваляе сабе прывабнасці замежнага курорта. Такім чынам, калі вы вырашылі адпачыць за мяжой...*

Перш за ўсё прыкіньце свае фінансавыя магчымасці. Памятайце: акрамя закладзеных у кошт тура адносна недарагіх курортных паслуг, пяшчотнага замежнага сонца і вады, зялёныя грошы з выявай дзядзькі ў шурпатым навобмацак сурдуце, — галоўная сіла вашага поспеху ў перыяд адпачынку. Ударна папрацуйце на працягу года. Перавыканайце норму, напішыце кнігу, зрабіце адкрыццё, купіце і прадайце... Адным словам, акрамя ўплачаных за тур шасці—сямі соцень даляраў, майце ў кішэні тысячу—другую ў момант пераходу праз таможню.

Тур і агенцтва выбірайце не наўздагад, а рупліва збіраючы агентурныя даныя праз далёкіх знаёмых, трэціх і падстаўных асобаў. Чытайце вялікія рэкламныя агляды ў газетах: іх пішуць людзі аб'ектыўныя, незацікаўленыя і бескарыслівыя, якія па загаду душы і сэрца красамоўна захапляюцца перавагамі тых ці іншых агенцтваў. Мусольце падшыўкі спецыялізаваных выданняў. Патрабуйце вочнай стаўкі з тымі, хто ўжо адпачыў і пакаштаваў усяго таго, на што вы разлічваеце.

Лятайце самалётамі. У аэрапорт прыязджайце загадзя, каб як мае быць накурыцца перад палётам, не ведаючы, што ў самалёце таксама можна. Апраніцеся ўсё роўна як і некалькі разоў змяніце адзенне ў туалеце залы чакання, каб прадэманстраваць групе свае багатыя магчымасці. Пачынайце куціць яшчэ ў аэрапорце: купіце жонцы і дзецям аранжыкавы сок у пачаку з трубачкай за 35 цэнтаў. Не страляйце вачамі па баках: раптам пазнаеце знаёмага па тэлеэкране дырэктара дабрачыннага фонду, які "надабрачыніў" і сабе, і яшчэ адной жанчыне, каб паехаць адпачываць за мяжу. Пачняце пільна ўглядвацца — сапсуяце яму адпачынак. Увогуле, калі кошт тура дастаткова высокі, а геаграфія не былая "лагерная сацыялістычная", будзьце гатовыя да таго, што вядомых у рэспубліцы асобаў у групе будзе шмат. Тут вам і рэдактары газет, разрэкламаваныя ўрачы, вялікія чыны ў міністэрствах. Кампанія, словам, будзе цёплая. Касцяк групы складуць больш-менш маладыя бізнесмены — галантныя, часова нежанатыя кавалеры.

У самалёце не парушайце традыцый і не адмаўляйцеся ад напояў. Спытайце рускай гарэлкі — някепскі пачатак для замежнага адпачынку. Узмацніце задавальненне, падпільнаваўшы сцюардэсу, калі яна будзе каціць назад сваю каляску, скажыце ласкава: "Паўтарыць", — вас адразу зразумеюць і ацэняць. Не сядзіце, як сыч, утаропіўшы хмяльное вока ў мёртвыя воблачна-гарыстыя краявіды ўнізе. Пачынайце знаёміцца, падзяліце з кім-небудзь задавальненне ад пачатай у аэрапорце бутэлькі добрага даляравага каньяку.

Будзьце гатовыя да замежнага сервісу. У аэрапорце трапы, як мухі, аблепяць ваш самалёт, ледзь ён паспее спыніцца. Будзьце гатовыя да тамтэйшай устойлівай спякоты. Неназапашвайцеся цёплай вопраткай, страхуючыся па звычцы ад капрызнага на радзіме надвор'я. Аддайце перавагу паласатым, квяцістым, а таксама ў гарошак шортам і майкам. Бараду, калі ёсць, пагаліце. Дастаткова валасатых ног і грудзі — а то сонцу няма дзе будзе прыкласціся.



Нічога не купляйце ў аэрапорце. Вы яшчэ не ведаеце цэнаў, і праслаўтыя бяспошлінныя аэрапортныя крамы могуць быць па-вар'яцку дарагімі.

Будзьце гатовыя да таго, што за мяжой усё дорага. Спелыя цытрусавыя будуць валяцца па дарогах, але набыць іх больш танна, чым у Мінску на Камароўцы, вам не ўдасца.

Будзьце гатовыя да незвычайна ветлівых, далікатных адносінаў да вас афіцыянтаў і гатэльнага персаналу. Не рабіце спробы, у п'яным запале патрасаючы пачкам балотнага колеру крэдытак, сварыцца з афіцыянтам у бары, пад'ялдыкваючы яму на ламанай руска-англельскай.

Калі вы не занадта малады і не занадта здаровы, не спяшайцеся прыхопліваць з сабою на спякотны заморскі курорт юную актыўную дзеву. Пры пэўнай схільнасці да сардэчных удараў і днях, поўных гарачыні, пляжнага сонца, можна і не вытрымаць...

На пляжах не будзьце ракампустэльнікам. Актыўна карыстайцеся воднымі лыжамі, аэрапланамі, іншымі забавамі. Тым больш, што і кошт задавальненняў невялікі, калі параўнаць яго з сярэднямесячным заробкам амерыканскага пасудамыйшчыка. Ні ў якім разе не ўздумайце пераводзіць тамтэйшыя цэны на рублі. Не смешна.

Не чакайце ад сваіх гатэльных апартаментаў больш, чым яны каштуюць. Апартаменты будуць сціплыя, але чыстыя. Зрэшты, у іх вы будзеце праводзіць толькі ноч, ды і не кожную. Не зацыклівайцеся на пляжы. Скажыце сабе так: "Быць у Італіі і не пабываць у Венецыі!", альбо так: "Быць у Іспаніі і не пабываць у Мадрыдзе!", альбо нават так: "Быць у Ізраілі і не пабываць у Іерусаліме!". Пабывайце ў Венецыі, Мадрыдзе, Іерусаліме, а таксама ў Дамаску, Парыжы і Стамбуле. Пабывайце яшчэ дзе-небудзь і кіруйце дахаты. Ляціце — падсмажаны, задаволены — высакамерна пасміхаючыся са слоў сцюардэсы, калі на пытанне, якое надвор'е ў Мінску, яна вам адкажа: "Цёпла, дваццаць градусаў".

Фота Ірыны ГУДЗІЕЎСКАЙ.

# Кур'ер "ЧЗ"

## Алё! Масква?..

*Што б ні гаварылі пра суверэнітэт дзяржаў, граніцы і мытні, але самыя цесныя кантакты ў жыхароў беларускай сталіцы па-ранейшаму з Расіяй. Гэта пацвярджае і статыстыка.*

Аказваецца, 71 працэнт усіх званкоў, якія робяць мінчане, карыстаючыся міжгародняй і міжнароднай тэлефоннай сувяззю, прыпадае на расійскія гарады. Далей ідзе Украіна — 19 працэнтаў. Па 2 працэнты дасталося Казахстану і Узбекістану. Астатнія 6 працэнтаў — сувязь з далёкім замежжам. Вельмі рэдка мінчане тэлефануюць у Арменію, Таджыкістан, Грузію і Кыргызстан.

## Наваселле, магчыма, не апошняе

*У будынку Дома ўрада гэтымі днямі ідзе вялікае перасяленне. Апарат прэзідэнта, які раней займаў асобныя памяшканні ў правым крыле, цяпер заняў кабінеты ў левым — непасрэдна там, дзе раней размяшчалася "сэрца" беларускага ўрада.*

Рэзідэнцыяй Аляксандра Лукашэнкі стаў кабінет былога Старшыні Савета Міністраў, а кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын цяпер займае кабінет, які раней належаў аднаму з яго намеснікаў.

Аднак пытанне з апартаментамі для прэзідэнцкай каманды канчаткова не вырашана. Магчыма, хутка ёй прыйдзецца пераязджаць у будынак былога ЦК партыі, што цяпер належыць Вярхоўнаму Савету рэспублікі, а той, у сваю чаргу, размесціцца ў будынку, дзе праходзяць яго пленарныя пасяджэнні.

БЕЛІНФАРМ.

## Па рацэ Сар'янцы – у мінулае

*На Верхнядзвіншчыне прайшла своеасаблівая вахта памяці. Мясцовыя вандроўнікі, члены клуба "Адраджэнне" адправіліся па рацэ Сар'янцы на байдарках даследаваць помнікі гісторыі.*

Краязнаўцы-энтузіясты на чале з Антонам Бубалам добраўпарадкавалі магілы на месцы колішніх, спаленых у вайну вёсак. Пра сваё падарожжа адраджэнцы распавялі на старонках раённай газеты.

Уладзімір МІХНО.

## Прапіў і печ

*Непрыемная нечаканасць чакала адзінокага жыхара Маладзечна, калі ён вярнуўся з гарадской бальніцы дамоў.*

У сваёй хаце, якая стаяла наводшыбе, ён не ўбачыў... сваёй печы, на якой так любіў грэцца. Аказалася, сын прапіў у хаце ўсё, што можна, а потым разбурыў печ і прадаў цэглу.

Ці сагрэе гэтая цэгла новых гаспадароў?

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

## Кніга замест гір

*Жыхары Маладзечна, ідучы на кірмаш, часам бяруць з сабою вагі: узважыў табе прадукт прадавец, тут жа яго і правяраеш. Як правіла, разыходжанні значныя.*

А вось маладзечанец Ю.В. замест вагаў выкарыстоўвае раман Новікава-Прыбоя "Цусіма". Гэтую кнігу некалі падарылі яму ў дзень нараджэння. Том, які выдадзены яшчэ ў 1952 годзе і налічвае 888 старонак, важыць роўна адзін кілаграм. Хоць у палату мер і вагаў здавай.

